

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 27 (55) 18—24 жніўня 1993 г. Кошт 5 рублёў

25 ліпеня адбылося чарговае пасяджэнне Сойму БНФ «Адраджэньне». Прынятыя на ім дакументы, спадзяемся, будуць цікавыя для нашых чытачоў.

## Пра новую ініцыятыву ураду Беларусі

## Заява Сойму БНФ «Адраджэньне»

**Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» адзначае, што пагаршэньне эканамічнага становішча ў Беларусі вынікае з антырэфарматарскай пазыцыі ўраду і намэнклятурнай большасьці Вярхоўнага Савету. Адсутнасьць самастойнай палітыкі кіраўніцтва Беларусі, панаваньне ў ім кампродарскіх элемэнтаў дазваляе ўладным структурам Расеі ажыцьцяўляць адкрыта імпэрскую палітыку ў дачыненьні да Беларусі, выкарыстоўваючы сваю паліўна-энэргетычную і сыравінную манаполію.**

**Пагаршэньне эканамічнага стану ў Беларусі і Ўкраіне дало палітычным колам Расеі, зьвязаным з вайскова-прамысловым комплексам, магчымасьць выкарыстаць прапанову заключэньня «славянскага эканамічнага саюзу» у сваіх інтарэсах, пазбавіць гэтыя краіны эканамічнае самастойнасьці. Паступовая ліквідацыя незалежнасьці Беларусі і Ўкраіны можа адбыцца шляхам арганізацыі наддзяржаўных бюракратычных структураў і праслаўтага «цэнтру».**

**Заключэньне г. зв. эканамічнага саюзу з Расеяй разам з падпісаньнем ваенна-палітычнай дамовы аб калектыўнай бясьпецы замацуе прысутнасьць чужых войскаў на нашай зямлі, эканамічна раззброіць нас, зацягне ў ваенныя авантуры Расеі.**

**Доказамі гэтаму зьяўляюцца правакацыйная і супярэчная Хэльсінскім пагадненьням пастанова Вярхоўнага Савету Расейскай Фэдэрацыі пра Севастопаль, умяшаньне Расеі ва ўнутраныя справы Эстоніі, войны ў Абхазіі і Таджыкістане, дзе непасрэдны ўдзел бярэ расейскае войска і куды ўжо плянуюць уцягнуць Беларусь.**

**Рэалізацыя пляну «славянскага эканамічнага саюзу» падкладае бомбу пад існаваньне СНД, аддзяляе Расею ад Сярэдняй Азіі і кансалідуе апошнюю з суседнімі азіяцкімі краінамі, зьмяняе геапалітычную сытуацыю на Ўсходзе. Гэты плян, за які ўхапіліся шчыльна зьвязаныя з ВПК беларускі і ўкраінскі прэм'еры, сьведчыць, што для расейскага ВПК прысутнасьць Расеі на Украіне і Беларусі нашмат важнейшая за няўдалую расейскую палітыку ў Азіі, разблытваць вузлы якой хочуць прымусіць і нас.**

**Папярэднія шырока прапагандаваныя эканамічныя ініцыятывы ўраду Беларусі і яго кіраўніцтва скончыліся правалам.**

**Сойм БНФ асуджае супярэчныя інтарэсам нашага народу захады Старшыні Савету Міністраў Беларусі і тых урадоўцаў, што яго падтрымліваюць. Нельга дапусьціць стварэньня «эканамічнага саюзу» дзеля палітычнае гульні, у мэтах задавальненьня матэрыяльных інтарэсаў пануючай у Беларусі намэклятуры, аднаўленьня імпэрыі і ўлады вайскова-прамысловага комплексу за кошт незалежнасьці Беларусі.**

**Прынцыпы, якія гарантуюць бясьпечную і дабрабытную будучыню нашай краіне,—гэта нэўтралітэт, рынкавыя рэформы ў эканоміцы, каардынацыя ўзаемавыгодных дачыненьняў з усімі суседзямі, найперш на поўдні і поўначы, вызваленьне з-пад манапольнай сыравіннай залежнасьці ад Расеі, эканамічнае, палітычнае і культурнае вяртаньне ў Эўропу, свабоднае разьвіцьцё беларускага грамадства, нацыянальна-культурнае адраджэньне.**

## Аб грашовай рэформе ў Расеі і бязьдзейнасьці кіраўніцтва Беларусі

## Заява Сойму БНФ «Адраджэньне»

**Чарговы раз Вярхоўны Савет Беларусі, урад і Нацыянальны банк краіны прадэманстравалі няздольнасьць праводзіць самастойную дзяржаўную палітыку.**

**Расейскі ўрад зьдзейсьніў грашовую рэформу, якая ўдарыла па інтарэсах іншых краін былога СССР, дзе знаходзіцца ў абарачэньні расейскі рубель. У гэтых умовах кіраўніцтва Беларусі так і не наважылася прыняць рашэньне пра ўвядзеньне нацыянальнае валюты, хаця інтарэсы нашай дзяржавы пільна вымагаюць такога кроку.**

**Сойм БНФ падкрэсьлівае вераломны ў дачыненьні да Беларусі спосаб правядзеньня рэформы з боку расейскага ўраду.**

**Сойм нагадвае, што БНФ ня раз папярэджваў Вярхоўны Савет і ўрад Беларусі пра неабходнасьць для нашай краіны падрыхтаваць сваю крэдытна-фінансавую сыстэму і ўвесьці ўласныя грошы. Але на працягу трох гадоў гэтая прапанова адхілялася. Зараз нашыя людзі вымушаны спажываць плён згубнае палітыкі кіраўніцтва дзяржавы.**

**Безадказнасьць паводзінаў кіраўнікоў краіны вымушае ставіць пытаньне пра неадкладную адстаўку Старшыні Савету Міністраў і старшыні Нацыянальнага банку Беларусі.**

## Чые «дваранскія гнёзды»?



На здымку—два катэджы. Наколькі нам вядома, адзін з іх будуецца значнай службовай асобай Віцебскага гарвыканкама, а другі—не менш важнай асобай органаў унутраных спраў.

Абодва маюць добраўпарадкаванае жыллё, але скажыце, калі ласка, хто ж не марыць выйсці на досвітку на балкон двухпавярховага асабняка, акінуць позіркам спакойную гладзь Заходняй Дзвіны, удыхнуць на поўныя грудзі ап'яняючага летняга паветра і паслухаць пералівістыя пошчакі салаўя?

Ці не праўда, добрае суседства?

На гэтым жа ўзгорку атрымалі зямельныя ўчасткі каля 30 грамадзян сярод якіх шмат кіраўнічай «эліты». І хутка тут будуць расці хаткі, як грыбы пасля цёплага дожджычка.

Кожны жадаючы можа ўбачыць «будоўлю века» ўласнымі вачыма, праехаўшы па вул. Зеленагурскай.

Пазіраючы на гэтыя катэджы, міжволі ўспамінаем «крылаты» выраз «бацькі народаў»: «Жыццё стала лепш, жыць стала весялей».

Можа, хто-небудзь у гэтым сумняваецца?

**Язэп КАЛЮЧКА.**

## У ГАЗЕЦЕ:



## Нарэшце

Напрыканцы студзеня 1992 года з-за злачынных дзеянняў былых (цяпер) спецназаўцаў К. Лускіна ды В. Баграца трагічна загінуў студэнт II курса Віцебскага медінстытута А. Баранаў.

Спатрэбілася паўтара гады, каб справа дайшла да суда. Праўда, патрабаванне грамадскасці аб разглядзе справы ў Віцебску было праігнаравана Вярхоўным судом рэспублікі.

25 жніўня а 10 гадзіне ў Аршанскім гарадскім судзе пад старшынствам А. Карэтнікавай пачнецца першае паседжанне судовага працэсу.

**А. ФЕМІДАЎ.**

*Лісты чытачоў*

## ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Да вас звяртаюцца жыхары вуліц П. Марозавай і Л. Чайкінай у Полацку. У дадзены час паскоранымі тэмпамі ідзе забудова прыбярэжнай паласы, прылягаючай да іншых вуліц. На працягу 3 км у нашым мікрараёне не засталося ніводнай прыбярэжнай зоны, дзе можна было б свабодна падысці да берага Дзвіны. Карэннае насельніцтва фактычна загнана ў штучна створаную рэзервацыю. Навокал—толькі забароненыя зоны: чыгуначны мост, база «Ваенгандаль», «Полацкі водаканал», дачы супрацоўнікаў гарвыканкама.

У раёне, дзе няма элементарных умоў для чалавечага жыцця, дзе тры вуліцы—Мірная, Навасёлаў і Журбы—практычна затоплены ў балоце, пачата новае будаўніцтва і адбіраецца апошні глыток свабоды. Па гэтай вузкай паласе зямлі праходзяць два напорных вадаводы з высокім ціскам чыстай пітной вады, два высокавольтных кабелі напружаннем 10 тысяч і 6 тысяч вольт. У сувязі з гэтым, паводле будаўнічых нормаў і правілаў узвядзенне якіх-небудзь жылых збудаванняў забаронена. Акрамя таго, існуе ахоўная прыбярэжная зона згодна з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ахове навакольнага асяроддзя». Гэта што тычыцца юрыдычных і будаўнічых нормаў.

Але ёсць тут і маральны аспект. І гэта асабліва балюча ўспрымаецца старажыламі нашага мікраёна. Справа ў тым, што пры вызваленні Полацка у 1944 годзе Савецкай арміяй у час фарсіравання Зах. Дзвіны, тут, на беразе, загінула да двух батальёнаў нашых салдат. Іх астанкі мясцовыя жыхары знаходзілі і праз шмат гадоў пасля заканчэння вайны.

На працягу доўгіх гадоў на гэтай прыбярэжнай паласе размяшчаліся паркгадавальнік Полацкага зелянгаса і маленькая спартыўная пляцоўка. Цяпер прыгожы парк знішчаны, футбольнае поле заарана і абгароджана сеткай.

Як можна будаваць жыллё на крыві і астанках нашых салдат, на трубаправодах высокага ціску, на электрычных кабелях з напружаннем 10 тысяч і 6 тысяч вольт?

Мы лічым дзеянні гарадскіх улад у дадзеным выпадку злачыннымі, бо яны сваімі дыктатарскімі рашэннямі падмянілі законы і нормы Рэспублікі Беларусь. Хто адкажа за здзек над насельніцтвам Полацка?

**А. ХРУЦКІ**
**і яшчэ 20 подпісаў.**

**Ад рэдакцыі.** Хто ж абароніць простых людзей ад здзеку мясцовых уладаў? І ці здольна наогул гэта зрабіць цяперашняе кіраўніцтва на ўсіх узроўнях да Вярхоўнага Савета ўключна? А можа, у нас ніякай улады і няма? Напэўна, усё ж такі ёсць, але занятая яна справамі больш важнымі, чым клопат аб простым людзе—«прыхватызацыяй» дзяржмаёмасці, будаўніцтвам шыкоўных катэджаў і да т. п.

А што можа зрабіць газета—выданне, апазіцыйнае цяперашнім уладам і ніяк гэтымі ўладамі не падтрыманае? Толькі надрукаваць калектыўны ліст палачан, каб праблемы, ўзнятыя ў ім, набылі грамадскі рэзананс. Што ж датычыць магчымых канкрэтных парушэнняў юрыдычных і будаўнічых нормаў, то тут на наш погляд, сваё слова абавязана сказаць пракуратура.

А простым людзям застаецца адно: дабівацца роспуску Саветаў усіх узроўняў, у першую чаргу Вярхоўнага, і правядзення датэрміновых выбараў.

